ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 г. №24(84), 5-12 лістапада 2001 г. Кошт па дамове

## Сёння ў нумары:



АПЫТАННЕ "ВОЛЬНАГА ГЛЫБОКАГА"

# Якое месца ў Вашым жыцці займае каханне?

**Апытанне правялі Андрэй Храпавіцкі і Уладзімір Скрабатун (здымкі)**

На глыбоцкай вуліцы мы сустрэлі сімпатычную жанчыну ў манашай марынарцы. Мы звярнуліся да яе з пытаннем, якое вынесена ў загаловак. Манашка сказала, што адкажа на гэтае пытанне тады, калі дазволіць ксёндз. Параіла падысці да мікрааўтобуса, які стаяў ля кансервавага завода. На ім былі польскія нумары.

-- Там -- францішкане, можа яны вам адкажуць на такое пытанне?

Падышлі. Прадставіліся. Сказалі аб сваёй мэце. Манахі-францішкане, апранутыя ў цёмныя марынаркі, папрасілі паказаць пасведчанне журналістаў і газету "Вольнае Глыбокае". Іх просьбу мы задаволілі, аднак, у адказ пачулі: "Даваць на гэтае пытанне адказ нам забараняе статут".

На тым і развіталіся. І ўсё ж цікава: ці хвалюе тэма кахання людзей, якія на ўсё жыццё далі абяцанне не ўступаць у шлюб. Верагодна, мы ніколі не атрымаем на гэта адказ.

На яго нам адказвалі звычайныя зямныя людзі. Вашай увазе -- самыя розныя меркаванні.



Прадавец крамы *"Калібры"* **Ханякоў Валеры Уладзіміравіч**, *г. Глыбокае.* Па адукацыі таваразнаўца, скончыў Полацкі гандлёва-кааператыўны тэхнікум:

-- О! Гэтае пытанне якраз да мяне. Каханне? Яно ёсць. Ёсць!!! Я зараз знаходжуся ў стане закаханасці. Лічу, што гэта на ўсё жыццё. Спадзяюся, што гэта так! Збіраюся жаніцца, чаго і ўсім жадаю. Доўга шукаў! Мая выбранніца -- Юля Якімовіч. Працуе ў нашай сістэме, сістэме спажывецкай кааперацыі. На бок не хадзім. Нявест далёка не шукаем! Там, дзе працуем.

Жадаю ўсім знайсці сваё каханне.



Прыватны прадпрымальнік **Шаурка Сяргей Міхайлавіч**, *г. Глыбокае:*

-- Каханне -- сэнс жыцця ад Бога. Каханне -- гэта Бог. Жыццё -- цудоўнае! Жывём мы толькі адзін раз. Знаходзімся на гэтай зямлі часова. Вось такі мой адказ.

**Ізаітка Марына Валянцінаўна,** галоўны бібліятэкар аддзела маркетынгу Глыбоцкай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы:

-- Каханне? Трэба падумаць...



Любоў можа быць да прыроды, да паэзіі, каханне ж можа быць толькі да чалавека. Калі яно ёсць, то кожная жанчына можа быць **нешта.** У кожнага чалавека павінен быць нейкі інтарэс да жыцця... Калі ён ёсць, то кожная жанчына адчувае сябе па-іншаму. Гэта могуць быць і не сапраўдныя пачуцці, як кажа наш дырэктар, а толькі лёгкі флірт. Аднак, калі гэта ёсць, тады жанчына глядзіць інакш на ўсё навакольнае асяроддзе, на прыроду, на сяброўак... Мы ўсе адчулі сябе па-іншаму, калі ў наш жаночы калектыў прыйшоў новы чалавек. Мужчына. Мы пачалі, глядзець за сабой, ладзіць прычоскі... Нейкі стымул з'явіўся.

Каханне -- гэта тады, калі вырастаюць крылы над будзёнай шэрасцю і жыццё падаецца цудоўным!

Бухгалтар, супрацоўнік прыватнай крамы *"МКТ+"* **Алена Пацэвіч**, *г. Глыбокае:*



-- Каханне ў маім жыцці? Я яго на сваім шляху яшчэ не сустрэла. Не ведаю. Спадзяюся, усё наперадзе.



Наведвальнікі раённай бібліятэкі **Лебедзева Тацяна** *(злева)* і **Чалнакова Дзіяна** *(справа), вучаніцы 8 «В» СШ№2*

**Тацяна:** "Я думаю, што каханне -- самае вялікае пачуццё, якое звязвае людзей паміж сабой і без яго проста жыццё не мела б ніякага сэнсу».

**Дзіяна:** "Ой, не ведаю аб ім нічога. Проста не задумвалася».

## Аварыя ў Мёрскім раёне

**Сто тон паліва вылілася з прадуктаправода "Дзісна-Вентспілс" на ўчастку, што размешчаны непадалёк ад вёскі Рудакі Мёрскага раёна.**

Для ліквідацыі здарэння было задзейнічана 16 адзінак тэхнікі, больш за 40 чалавек. За дзень аварыя была ліквідавана. Паводле звестак МНС, існуюць 2 версіі аварыі: дэфект зварачнага шва альбо неасцярожнасць рабочых.

## Змагацца са злачыннасцю па-новаму

На базе Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі будзе створана сістэма ўліку галасоў па фанаграмах. Такое рашэнне прыняў Савет Міністраў з мэтай узмацнення барацьбы са злачыннасцю: вымагальніцтвам, пагрозамі, загадзя хлусlівымі паведамленнямі аб выбухах (тэлефонны тэрарызм).

*А.Сакалоў*

## Праезд падаражэў

**У канцы кастрычніка на 30% адразу падскочылі цэны на праезд у аўтобусах міжгародніх і прыгарадных маршрутаў.**

Так, даехаць у Мінск зараз каштуе 3192 рублі, у Віцебск -- 3662, у Полацк -- 1684. Але нават гэтыя кошты не пужаюць пасажыраў: і ў сярэдзіне тыдня дабрацца аўтобусам з Мінска, Віцебска да Глыбокага праблематычна. Што ж датычыць такога значнага павелічэння кошту на праезд, дзівіцца не прыходзіцца. Калі памятаеце, перад выбарамі ўрад краіны падарыў студэнтам бясплатны месячны праезд, каб тыя дапамаглі бацькам управіцца па гаспадарцы. Ідэя сама па сабе нядрэнная. Шкада толькі, што непрадуманая да канца. Страты ад яе, якія склалі не дзесяткі, не тысячы, а мільёны рублёў, трэба вяртаць у казну. Вось мы ўсе за тую ідэю і будзем расплачвацца.

*М.Ясюкевіч*

## Экіпаж Нагановічаў лідыраваў

**Першы на Віцебшчыне на сёлетнім жніве больш тысячы тон збожжа намалаціў экіпаж Нагановічаў з калгаса імя Калініна Пастаўскага раёна.**

З першых дзён пільніцы бацька з сынам на новым камбайне, што выраблены ў Лідзе, выдавалі ў дзень з бункера ад 50 да 74 тон збожжа, а таму і зарабілі досыць. Хоць раз у год у сезон жніва хацелі б папоўніць свой сямейны бюджэт і іншыя механізатары, але задаволіліся малым. За выключэннем 4-5 вядучых гаспадарак, у астатніх ураджайнасць 10-17 цэнтнераў на круг. А ў саўгасе "Варапаева" і гэтым пахваліцца не могуць. У сямі гаспадарках раёна жніво зацягнулася да позняй восені.

## Адных – павысілі, другіх – скарацілі

**У краіне пасля прэзідэнцкіх выбараў адбыліся некаторыя змены.**

Так, ліквідаваны многія дзяржкамітэты пры міністэрствах, якія раней былі самастойнымі органамі кіравання – яны ўліліся ў профільныя ведамствы, а іх старшыні перасталі быць міністрамі. Без змен засталіся камітэты дзяржкантролю, дзяржбяспекі. Беларуская чыгунка, у адрозненне ад дзяржкамітэта па авіяцыі, усяго толькі аб'яднанне, якое падначалена Савету Міністраў.

Ліквідаваны міністэрствы па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі і міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый. Не стала пасады старшыні дзяржкамітэта па справах моладзі, дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, дзяржкамітэта па гідраметэаралогіі. Міністэрства лясной гаспадаркі стала камітэтам пры Савеце Міністраў. Ведамствы Міхаіла Падгайнага і Канстанціна Сумара сталі адпаведна Міністэрствам інфармацыі і Міністэрствам па падатках і зборах. З'явілася ў нас і Міністэрства энергетыкі, крэсла старшыні якога пакуль не занята.

## Тэлефонныя карты сціраюць межы

**Па інфармацыі "Белтэлекам", звычайныя для Беларусі таксафоны, што працуюць з карткай 120 хвілін, пакрысе будуць заменены ўніверсальнымі.**

Беларусы з кабіны вулічнага таксафона змогуць тэлефанаваць у любую краіну свету, карыстаючыся карткамі вялікай ёмістасці. Першы мільён іх ужо раскупілі. Будуць удасканальвацца і паслугі, якія прадстаўляюцца з дапамогай тэлефонных карт. Ужо зараз плануецца ўвесці ў абарачэнне "Сервісную тэлефонную карту". Купіўшы яе, абанент папярэдне аплачвае ў беларускіх рублях будучыя тэлефонныя размовы, якія можна весці з тэрыторый большасці краін свету. Гэту карту не трэба будзе нават устаўляць у таксафон. Дастаткова запомніць яе індывідуальны нумар (пін-код). Званіць можна будзе, набраўшы пэўны код доступу і свой пін-код перад кодам краіны, горада і нумарам абанента.

## Латышы адменяць беларускія спісы

**Візавыя перспектывы "свецяцца" беларускім грамадзянам, якія жывуць у памежных раёнах з Латвіяй.**

Як вядома, зараз гэтая катэгорыя насельніцтва мае права на перасячэнне беларуска-латышскай мяжы па спецпропусках і па спісах. Але гэты парадак захаваецца толькі да ўвядзення Латвіяй візавага рэжыму ўжо для ўсіх без выключэння беларусаў. На перспектыву плануецца, што візы для жыхароў памежжа будуць выдавацца бясплатна.

## З любімай працай прыйдзецца развітацца

Праз непрыемную працэдуру ліквідацыі вымушаны прайсці ў Браславе калектыў філіяла Пастаўскай узбуйненай друкарні. Прадпрыемства, з ранейшага складу якога засталося толькі сем паліграфістаў, з 1 лістапада зачынена. Адзін супрацоўнік звольніўся загаддзя, а нязменны майстар Даната Буйніцкая нядаўна памерла. Магчыма, не вытрымала жанчына горкіх перажыванняў. Балюча ўсведамляць, што справа ўсяго іх жыцця ў развале, і іншым работнікам друкарні. Зусім інакш усё было раней. 20 год таму друкарня справіла наваселле ў новым тыповым будынку, набыла добрую тэхніку. З'яўленне ж у Браславе тры гады таму назад прыватнай друкарні толькі паскорыла развязку. З тэхнікай, якая ўстарэла, складана выжываць на рынку паліграфічных паслуг.

## "Азёрны край" ведаюць у свеце

**У Мёрах нядаўна прайшло чарговае пасяджэнне савета Еўрарэгіёна "Азёрны край". Вынікам стала прыняцце яго ў склад Глыбоцкага раёна.**

Калі казаць пра Еўрарэгіён, то гэтая міжнародная арганізацыя 4-ты год дзейнічае пад патранажам Асацыяцыі мясцовага і рэгіянальнага самакіравання Нарвегіі. У склад арганізацыі ўваходзяць памежныя рэгіёны Латвіі, Літвы і пяць раёнаў Віцебскай вобласці. За тры гады дзейнасці Еўрарэгіён наладзіў вучобу спецыялістаў, правёў 7 семінараў і канферэнцый па абмене вопытам працы. Партнёры маюць зараз старонку ў Інтэрнеце, наладзілі працу маладзёжнага экалагічнага лагера. На пасяджэнні было дамоўлена аб сумесным правядзенні ў 2002 годзе шэрагу мерапрыемстваў у сферы бізнесу, культуры, спорту. Падтрымку ў правядзенні акажа праўленне Беларускага фонда міру.

## "Ураджай" ды не такі

**Мы ўжо расказвалі чытачам, што сёлета з-за раптоўнага пацяплення ў трох сажалках з сямі ў рыбгасе "Навінкі" карп захварэў чырвонкай. Тады ўдалося справіцца з інфекцыяй.**

Але вылавіць за сезон 380 тон таварнай рыбы не атрымалася, хоць сёлетнія прыродныя ўмовы для роста карпаў-таўсталобікаў былі проста ідэальныя. Банкаўскі крэдыт на кармы рыбаводам не выдзелілі, і рыба аказаліся на паўгалодным пайку. У выніку "ўраджай" аказаўся слабаваты: усяго 200 тон рыбы. Большую частку яе ўжо рэалізавалі ў Мінску, Віцебску, іншых гарадах краіны. Для параўнання, у лепшыя гады ад жадаючых купіць свежую рыбку адбіцца было неяк. Тады "Навінкі" гадавалі і прадавалі штогод да 800 тон карпа.

## Урокі дабрыні

**У вальеры Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры" жыве маладзенькая казуля. Яе ўсе любяць. У жывёліны ёсць імя – Каця, а яшчэ ёсць "мама"-выратавальніца.**

Малютку з сямейства мелкіх аленяў назвала Кацяй шасцікласніца СШ №2 з Мёр Анастасся Бунто, якая ўсё лета выхаджвала прыгажуню. Казуля прыбіралася да людзей, калі згубіла сваю маці, што абаранялася ад драпежнікаў. Бацька дзяўчынкі прынёс яе, ростам з зайца, дадому, дзе жывёлу церпяліва і ласкава даглядалі. Насця карміла яе праз соску і пасябравала. На сямейным савеце вырашылі, што адпускаць казулю ў лес, дзе яна жыць не прызвычаілася, нельга. Мясцовае таварыства паляўнічых і рыбаловаў, а таксама райінспекцыя прыродных рэсурсаў, узялі Кацю пад сваю апеку, а Насцю заахвоцілі за яе добры ўчынак падарункам і грашовай прэміяй.

*У. Шык*

## Грошы замест туалетнай паперы

**Гады чатыры назад прыбіральшчыца адной з гарадскіх школ Глыбоцкага раёна расказвала, што была здзіўлена, калі ўбачыла ў туалеце беларускія рублі.**

Іх ніхто не выкінуў. Яны пайшлі замест туалетнай паперы, якую ў школах днём з агнём не знойдзеш. Для той прыбіральшчыцы, якая за месяц зарабляе мізер, рублі – былі грошы, а для вучняў – звычайныя абясцэненыя паперы. Што ж змянілася за апошнія чатыры гады? У чым адчуваем мы нашу Беларусь? У мове не адчувам, бо гаворым на рускамоўна-беларускай трасянцы. У культуры не адчуваем, бо беларускія традыцы – гэта не час ад часу праводзімыя мерапрыемствы на роднай мове, гэта стыль жыцця, вобраз мыслення, выхавання, нацыянальны быт, харчаванне…

Нядаўна зайшла ў туалет, што ля падвала на плошчы 17 верасня. Жахнулася, убачыўшы, што замест туалетнай паперы ідуць ужо не рублі і не пяцёркі, а дваццаткі і сотні! Вось такія адносіны да "нацыянальнай" валюты. Успомніліся словы той жа прыбіральшчыцы: "Якая валюта, такія і адносіны да яе." Нічога не варты нашы грошы. Нічога не варты ўрад, які плоціць народу такія нікчэмныя грашы. Нічога не варта нацыя, якая адчувае Беларусь у "туалетнай" паперы з выявай Нацыянальнага банка РБ. Нічога не варта краіна, якая дажылася да такога сораму.

*М.Ясюкевіч*

## Новая школа – фантастычная мара

Два гады назад планавалася за кошт сродкаў абласнога бюджэту пабудаваць новую школу на 264 месцы ў Дунілавічах. Але да цяперашняга дзеці займаюцца ў ранейшай школе ў дзве змены, у класах, якія даўно сталі лядашчымі ад часу. Па прычыне фінансавых складанасцяў фундамент школы заклалі толькі сёлета, пачалі класці кладку. Пакуль невядома які клас дачакаецца наваселля. Наогул, па раёне школы могуць зачыняцца, бо апошнія пяць год колькасць вучняў зменшылася на 560 чалавек. Працэс працягваецца.

*У. Шык*

## Хочаш жыць – умей украсці?

20-гадовы рабочы калгаса "Сцяг перамогі" Мёрскага раёна Андрэй Б. за ўкрадзеныя 25 літраў дызпаліва быў пакараны штрафам. Не прайшло і паўгода, як з напарнікам украў з млыну 225 кілаграмаў мукі і трапіў прама ў рукі старшыні. Яго асудзілі па крымінальнаму артыкулу і хлопец адбывае год папраўчых работ з утрыманнем пятай часткі заробку на карысць дзяржавы. Нягледзячы на даволі крутыя заканадаўчыя меры, крадзяжы працягваюцца. Толькі крымінальных спраў на Мёршчыне ў першым паўгоддзі разгледжана 33. Гэта па фактах крадзяжу, а ў дадатак 356 -- у адміністратыўным парадку. Выяўлены тры крадзяжы па прычыне злоўжывання службовым становішчам, два выпадкі прысвойвання і растраты. Асуджаны 77 чалавек, з іх – 9 непаўналетнія. З законапарушальнікаў спагнана 2.817.700 рублёў штрафаў.

*У. Шык*

*Як зарабіць?*

## Мала – дрэнна, многа – яшчэ горш

**Кожны зараз зарабляе на жыццё па-свойму. Адзін капаецца ў агародзе і лічыць, што іншага жыцця не існуе. Другі купляе-прадае і думае, што самы хітры і разумны. Найменш тых, хто зарабляе хлеб надзённы ўласнымі рукамі ці галавой: цяжка, але ганарова. Многія маладыя хлопцы і мужчыны , якія пакуль не знайшлі сабе працу "па кашальку" ўпотай мараць зарабіць хутка і шмат. Такое бывае толькі ў казках альбо з некім, толькі не з намі. Быць целаахоўнікам, кажуць, выгадна. Плацяць нядрэнна, праца не пыльная. Пра тое, што можна паплаціцца галавой, мала хто думае.**

Каго заўгодна ахоўваць цела не возьмуць. Заробак ахоўніка-вадзіцеля пры графіку "суткі праз трое" рэдка калі пераважвае за тысячу долараў. Паслугі прафесіянала, у мінулым супрацоўніка міліцыі ці КДБ, афіцэра групы "Альфа" ці "Алмаз", які мае баявы вопыт, а таксама барца-разрадніка каштуюць ад 6 да 25 долараў за "чалавека-гадзіну" альбо 3 – 5 тысяч долараў у месяц. Але звычайна целаахоўнікі, якія атрымліваюць такія "бабкі", хутка адыходзяць на вечны спачын. За целам, якое яны ахоўваюць і за якое так добра плацяць, часцей за ўсё палююць найміты, якім гэта цела "заказалі".

Дрэнна працаваць месяц за 50 долараў, але нічога добрага, калі за месяц будзе 5 тысяч долараў. Апошні заробак не за здольнасць думаць ці ствараць, а за згоду аддаць жыццё дзеля некага. Ніякія тысячы долараў не каштуюць жыцця.

*М. Петрашэнкаў*

*Цікава*

## Дай пашпарт -- прададзём долары

Не так даўно я пайшла ў пункт абмену валюты, каб купіць крыху долараў. Некалькі месяцаў з пенсіі збірала на 20 амерыканскіх даляраў. Наскрабла-такі. Прыйшла. Узрадавалася, што купіць ёсць што і мерзнуць не прыйдзецца. Але касірка ў акенцы папрасіла мой пашпарт. Яго ў мяне не было. Яшчэ летам, калі я купляла па 5 ці 10 долараў, ніхто не патрабаваў ніякага пашпарта. Прыйшлося ісці дамоў за дакументам. Ішла і думала: "А навошта, па чыйму загаду нас усіх, хто хоча купіць валюту, бяруць на карандаш, пішуць у нейкую ведамасць? Куды тая ведамасць пойдзе? І ці не акажацца раптам, што я вельмі ўжо багаты чалавек, раз купляю тыя даляры? Можа яшчэ трэба плаціць які падатак? Вечарам патэлефанавала дачцы ў Мінск і спытала пра гэта. Дачка сказала, што пашпарт трэба, калі купляеш больш за паўтары тасячы долараў. Сказала, што гэта ўжо нейчая мясцовая выдумка невядома каго. Вось і зразумей цяперашнія законы. Сэканом на ежы, вопратцы, купі той "зялёны" на смерць, а пасля бойся, каб цябе зладзюгай якой не зрабілі.

*Тамара Антонаўна Мацюшэнка, пенсіянерка*

*Кошт жыцця*

## Не падмажаш – не пад'едзеш

Яшчэ зусім нядаўна – ў канцы 80-ых – пачатку 90-ых гадоў XX стагоддзя беларускія чыноўнікі лічыліся самымі непадкупнымі ва ўсёй савецкай прасторы. Беларусы ў той час практычна нічога не ведалі пра хабар пры паступленні ў ВУЗы, актыўна ваявалі супраць практыкі паднашэння кветак і цукерак настаўнікам і ўрачам. Сітуацыя змянілася, калі ў Беларусь прыйшлі "рыначныя" рэформы: працаваць беларусы не сталі менш, а вось жыць многія сталі горш. Таму і не здзіўляюцца талерантныя землякі, што амаль усюды і многія "бяруць на лапу", нават у "бясплатных" медустановах і школах, дзіцячых садках, універсітэтах, на мытні, у ваенкаматах, мясцовых адміністрацыях… У краіне не было гучных спраў пра шматмільённы хабар, але ўсе добра ведаюць: каб жыць без праблем – трэба плаціць. Нічога дрэннага ў тым няма: у кожнай дзяржаве аказваюцца платныя паслугі. Але і заробкі людзі атрымоўваюць не такія, як беларусы.

З дапамогай прадстаўнікоў праваахоўных органаў удалося скласці "расцэнкі" некаторых паслуг, якімі карыстаюцца беларусы. Так, напрыклад, за медпаслугі для замежных грамадзян урачы бяруць па 300 долараў. Уладкаваць дзіця ў "прэстыжны" садок каштуе 100 долараў, паступленне ў ВНУ "па блату" – ад 500 да 1000 долараў. "Закасіць" ад арміі альбо ўзяць адтэрміноўку на паўгода – 100 – 500 "зялёных". Плата за "цёплае" месца на прадпрыемстве ці ў прыватнай фірме – 50 – 300 долараў. «Паслугі за слепату» мытнікаў каштуюць ад 50 да 500 долараў і больш, у залежнасці ад кантрабанднага тавара. Дазвол на ўстаноўку камерцыйнай крамы на тэрыторыі буйнога харчовага рынка – 5 – 6 тысяч долараў. 25 долараў штомесяц плоцяць уладальнікі гандлёвых павільёнаў міліцэйскім "стрэхам". Падатковая праверка "без прыдзірак" абходзіцца камерсантам 30 – 150 долараў, закрыць крымінальную справу 5 – 6 тысяч. П'янага за рулём, магчыма, адпусцяць, калі той аддасць ДАІсту 100 – 200 долараў, складанне ДАІстам падманнай схемы аварыі – 200 долараў. Стаць на атрыманне жылля без чаргі каштуе 1,5 тысячы…

*Зразумела, што падобныя расцэнкі больш падыходзяць сталіцы і абласным гарадам, на раёнах усё крыху менш і танней.*

*Жыць без праблем жадаюць многія, толькі вось купіць такое жыццё можа далёка не кожны.* **(Рэд. "ВГ")**

*"АіФ"*

# Лесапавал на цвінтары "Дуброва"



У гарадскіх межах існуе двое могілак. Адны з іх -- "Копцеўка" -- традыцыйна лічацца каталіцкімі. Другія, у раёне аўтастанцыі, -- праваслаўнымі. Даўней яны насілі назву "Дуброва", але чамусьці іх імя сцёрлася з людской памяці. Былі яшчэ трэція, але іх месца і, тым больш назву, не ведае і не памятае ніхто. Гэта могілкі Стары Пагост на Капітанскай горцы, дзе цяпер у Глыбокім святкуюць Купалле, на якой паляць вогнішча, п'юць піва і гарэлку, спяваюць купальскія песні. Гэта не проста сорам! Святатацтва. Ёсць толькі адно апраўданне: у нас проста не ведаюць мясцовую гісторыю, таму дакараць на глыбоцкія ўлады можа і не справядліва, але да ведама давесці неабходна. Трэба рабіць высновы. Што праўда, тое праўда: глыбоцкія ўлады шмат прыкладаюць намаганняў дзеля добраўпарадкавання горада. Той, хто прыязджае ў Глыбокае з іншых гарадоў Беларусі, заўсёды кажа добрыя словы ў адрас мясцовага кіраўніцтва.

Аднак, за ўсім немагчыма ўсачыць. Возьмем "Дуброву". Пахаваны тут розныя людзі. Ёсць заслужаныя настаўнікі, дырэктары прадпрыемстваў, падпольшчыкі, простыя рабочыя і прыбіральшчыцы. Штораз, пасля ўрагану, на надмагільныя помнікі валяцца, адно, два, тры вялізныя дрэвы. Звычайна, гэта ў некалькі абдымаў таполя серабрыстая. «Дрэва "рускай ляноты", -- так звычайна кажуць спецыялісты. Чаму? Каштоўнае дрэва расце доўга, на працягу жыцця не аднаго чалавека. Таполя ж расце хутка. Хутка дасягае вялікіх памераў. Хутка парахнее ўсярэдзіне. Якраз тое, што і трэба для ўрагану. Таму і дрэва "ляноты" -- ад людской ляноты пасадзіць добрае дрэва, якое вытрывае і ўраган, якое не паваліцца, не знішчыць надмагільныя помнікі. У многіх, хто пахаваны ў «Дуброве», ужо няма жывых блізкіх сваякоў. Няма каму даглядаць за магіламі.



Каму прад'явіць прэтэнзіі? Звычайна кажуць -- РВА ЖКГ. Аднак, РВА ЖКГ займаецца ўсім: цепліць кацельні, падае ваду, адводзіць каналізацыйныя сцёкі, мые вуліцы, кладзе асфальт, садзіць кветкі, рамантуе жыллё...

У звычайным, прыстойным еўрапейскім гарадку памерам як Глыбокае, напрыклад, у Латвіі, існуе свой Водаканал, свае Упраўленне кацельных і цеплавых сетак, Рамонтна-будаўнічае ўпраўленне, Камбінат азелянення і добраўпарадкавання.

Я кажу не пра цяперашні час, а пра савецкія часы, калі я там жыў і працаваў прарабам. Кожнае камунальнае прадпрыемства займаецца сваім профілем работ. У нас жа нічога не змянілася з савецкіх часоў.

І ўсё ж, ці з'явіцца ў Глыбокім свой гарадскі садоўнік? Нехта ж павінен раіць, якія дрэвы трэба садзіць не толькі ў скверах, вуліцах, але і на могілках.

*Ул. Скрабатун*

*Фотаздымкі аўтара*

Жыццё вакол нас

# Культурны чалавек -- ён і ў Глыбокім культурны

Магчыма, я занадта патрабавальны чалавек, але мнагае, што я бачу сёння вакол нас, мне не падабаецца. Я кажу пра культуру.

Усім хочацца жыць у прыгожай хаце, ва ўтульным і чыстым горадзе, усе зайздросна глядзяць на Захад: «Ах, як там добра, прыгожа, багата!» Можа і так, толькі многія мае землякі іхняга жыцця проста не заслугоўваюць. І вось прыклады.

Еду ў аўтобусе ў Віцебск. Побач села жанчына год 55-ці. Прыстойна выглядае. Калі сабралася выходзіць, скомкала білет і запіхнулатакі пад чахол сядзення. Вызвалілася! Дадумалася, малайчына, у свае 55. Няўжо нельга было ўзяць тую паперку ў кішэню і выкінуць у смеццезборнік? Іду па Глыбокім. Перада мной маладая жанчына год 30 з сынам, хлапчуком год 8 – 9. Хлапчук разгортвае марожанае і думае куды ж дзець абгортку? «Кемлівая» мама бярэ паперку і акуратна запіхае яе пад рашотку сцёка. І таго хлапчука ўжо ніхто не навучыць рабіць інакш, бо прыклад, як трэба рабіць, паказала яго мама, яго ідэал і любімы чалавек.

Стаяць на хітрушцы маладыя дзяўчаты. Хто купляе, хто прадае і ядуць семкі. На здароў'е, хоць гэта і не вельмі прыгожа. Лузгаюць, а шалупінне кідаюць пад ногі. Навошта? Хто вучыў таму? Шалупінне згнівае, калі яго кінуць на раллю. На асфальце яно ператвараецца ў смецце, якое нехта павінен прыбіраць. Ну ніяк не спалучаецца вобраз намаляваных і расфуфыраных модніц з іх пляваннем сабе пад ногі. Знешнасць і паводзіны ўсё часцей і далей разыходзяцца.

А паглядзіце як маладыя дзяўчаты і хлопцы ў людных месцах смокчуць піва, смаляць цыгарэты? Няўжо іх бацькі не вучаць, што падобныя паводзіны непрыстойныя? Што не так людзі паказваюць сваю дарослаць і самастойнасць? Што не так трэба выдзяляцца з натоўпу. Сёння з натоўпу выдзяляецца сціплая дзяўчына без дрэнных звычаяў, нехай крыху з кансерватыўнымі, але сапраўды каштоўнымі і ўстойлівымі поглядамі на жыццё.

А паслухайце, як размаўляе моладзь, сярэдняе пакаленне. Ледзь не за кожным словам то "блін", то мат-перамат. Ведаеце чаму так? Таму што слоўнікавы запас гэтых людзей вельмі бедны. Для сувязі слоў у сказе ўжываюць маты. Гэта ж жах, бо падобнае перадаецца з пакалення ў пакаленне!

Падобная культура ідзе з сям'і, з экранаў тэлевізараў, кніг. Дзеці робяцца не толькі дарослымі, але і злымі, разбэшчанымі, з завышанай самаадзнакай і патрабаваннямі. Але гэта мала каго хвалюе. І няхай ты прачытаў дзесяткі кніг, няхай ты скончыў ВНУ, маеш прэстыжную работу, але калі ты пхнеш паперку ў вадзяны сцёк, калі ты плюеш сабе пад ногі шалупінне, калі мацярышся, — ты чалавек бескультурны. І гэта надоўга, і гэта амаль невылечна. Бо калі хворага цела́м могуць вратаваць таблеткі, то хворага на бескультур'е выратуе толькі разуменне таго, што прыстойна, прыгожа, што да твару, а што не, жаданне кантраляваць кожны свой учынак, свае паводзіны, сіла духу, адчуванне прыналежнасці да сваёй маленькай радзімы, якую трэба спачатку паважаць. Будзе павага – пачнём берагчы. Усе разам пачнём, а не паасобку.

*М. Ясюкевіч*





Гэту паштоўку даслала нам Агнешка Чмульчынска з Познані (Польшча), якая пад час выбараў разам са сваім калегам Марцінам Банкам працавалі на Глыбоччыне. Дзякуючы іх прысутнасці ў раёне, польскія чытачы больш даведаліся пра Глыбокае і пра сапраўдны кошт «свабодных і празрыстых» выбараў. «Вольнае Глыбокае» падтрымлівае цесныя сувязі са сваімі калегамі. Пацверджаннем таму -- паштоўка, дасланая Агнешкай, з Аўстрыі.

# Захоўваючы даўнія традыцыі

Здаўна быў вядомы Пастаўскі раён багатымі музычнымі традыцыямі, працягам якіх стаў штогодні міжнародны фестываль народнай музыкі. Падабенства створаных ў гэтай мясцовасці груздаўскіх дыатанічных цымбалаў няма нідзе ў свеце. Каб сувязь часу не перарывалася, у райцэнтры распачата падрыхтоўчая работа па стварэнню музея традыцыйнай музычнай культуры Пастаўшчыны. І вядзецца яна не на пустым месцы. За два апошнія гады з 14 да 22 вырасла колькасць фальклорных калектываў, 9 з іх – дзіцячыя. Створаны аўдыя-відэаархіў народнай песеннай культуры. З дапамогай мясцовых спонсараў для будучага музея падрыхтаваны першыя дзесяць стэндаў, на якіх змясціўся творчы шлях знакамітага яшчэ з саракавых гадоў мінулага стагоддзя груздаўскага цымбальнага аркестра, чые традыцыі паспяхова працягваюць ансабль-капела "Паазер'е", а таксама калектывы з Варапаева і Лынтуп.

*У.Шык*

Праблема

# Дапамажыце адрамантаваць мост

Не толькі хваробай сваёй 79-гадовай суседкі заклапочаны зараз жыхары невялікай вёсачкі Сарочына, што ў Пастаўскім раёне. Не дай Бог здарыцца непапраўнае, везці гроб з целам нябожчыцы на могільнік прыйдзецца ў аб'езд праз райцэнтр, а гэта 20 кіламетраў з гакам. А да мясцовага могільніка, калі напрасткі, рукой падаць. Але як на грэх драўляны мост праз рэчку Мядзёлка хістаецца, і ў любы момант павозка, не кажучы ўжо пра аўтамабіль, можа зваліцца ў ваду.

Гэтым летам пенсіянерка Ніна Храпавіцкая па просьбе жыхароў вёсак Парaскі, Шабаны, Дзеравянкі звярталася ў райвыканкам, спадзеючыся, што перад выбарамі пойдуць насустрач пажаданням сотні старых людзей, якія дажываюць свой век. І сапраўды, прыбылі работнікі калгаса "Сцяг перамогі" і хутка змайстравалі па краях мастка поручні, а вось зрабіць падпоркі і насып забыліся.

Пенсіянеры кажуць, што мост так хістаецца, што ступіць і прайсці па ім асмеліцца хіба толькі каскадзёр. А людзям трэба дабірацца да царквы, што ў сяле Маньковічы на тым беразе, ісці да аўтобуснага прыпынку альбо ў магазін за прадуктамі. За выпісанымі дрывамі, сенам, па справах у горад, да якога 12 кіламетраў, трэба ехаць у аб'езд па разбітай лясной дарозе.

Калісьці на высокім беразе ў Маньковічах быў магазін, працаваў па аўторках і пятніцах. Але звольніўся прадавец, і магазін перастаў працаваць. Зараз сюды прыходзіць аўталаўка. Людзі рады ёй і прэтэнзій не маюць, акрамя таго, што машына старая, часта ламаецца і позніцца на некалькі гадзін. Перажываюць старыя, што на вачах развальваецца іх некалі заможны калгас. Жывёлы на ферме, што ўзведзена побач з могільнікам, засталося галоў сто, а нядаўна было ў разоў шэсць больш. Але здзіўляцца тут асабліва нечаму нават мясцовым жыхарам, бо на выбарах практычна ўсе прагаласавалі за цяперашняга кіраўніка.

Спачатку была роспач ад таго, што людзі самі галасавалі за такое жыццё. Аднак, варта пашкадаваць цёмных забітых даверлівых сялян, якім некалі чытаць газеты, глядзець тэлебачанне, разбірацца ў палітыцы і са старонак газеты заклікаць мясцовыя ўлады адрамантаваць мост – дарогу жыцця для людзей, якія ў XXI стагоддзі аказаліся нікому не патрэбнымі.

*У. Шык*

# Цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы ў Глыбокім запрашае

**Дошкі аб'яў у Глыбокім гэтай восенню папоўніліся абвесткамі аб аказанні новых паслуг у Цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы. Мы звярнуліся за інфармацыяй да дырэктара Цэнтра Саўчанкі Мікалая Аляксеевіча.**

Па яго словах, Цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы быў створаны ў 1999г. рашэннем райвыканкама з мэтай павышэння ролі спорту ў жыцці насельніцтва, з мэтай прыцягнуць вялікую колькасць людзей да заняткаў фізкультурай. Пры запрашэнні трэнераў на работу звяртаецца ўвага на іх прафесійныя якасці. У Цэнтры дзейнічаюць секцыі рукапашнага бою, тры групы рытмічнай гімнастыкі, адкрыта і працуе атлетычная зала, дзе можна займацца індывідуальна і пад кіраўніцтвам трэнера. Зараз ідзе набор у секцыю настольнага тэніса, якая пачне працаваць як толькі набярэцца група. Заняткі будуць праходзіць па выхадных днях, бо ў будныя вечары ўсе залы занятыя. Новы трэнер мае I спартыўны разрад. З верасня дзейнічае харэаграфічны гурток. Янкоўская М.У. праводзіць заняткі ў танцавальных групах. Вядома ж, нашых чытачоў, якія б хацелі займацца ў Цэнтры, цікавіць кошт аказваемых паслуг. Месячны абанемент складае 80% ад мінімальнага заробку. На сённяшні дзень месяц заняткаў для дарослых абыдзецца ў 6375 рублёў, для дзяцей, навучэнцаў школ да 16 год пры наяўнасці адпаведнай даведкі – 5100. Аднаразовы абанемент каштуе 531 рубель. Усе наведвальнікі мусяць мець медыцынскую даведку пра стан здароўя. Узрост наведвальнікаў – ад 8 год і старэй. На сённяшні дзень самым сталым кліентам, што займаюцца ў Цэнтры, каля 40 год.

Цэнтр можа пахваліцца і дасягненнямі: сярод трэнераў ёсць кандыдаты ў майстры спорта, удзельнікі рэспубліканскіх спаборніцтваў.

У Цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы арганізуюцца турніры дваровых каманд па настольнаму тэнісу, футболу, валейболу. Цэнтр займаецца дабрачыннай дзейнасцю. Інваліды, якія прыходзяць на заняткі, вызваляюцца ад аплаты за іх, хоць на гэта адпаведнага распараджэння выканкама пакуль няма.

Як і ўсе дзяржустановы, Цэнтр мае фінансавыя праблемы і шукае спонсараў для набыцця сучаснага абсталявання. Многія прылады ў атлетычнай зале не адпавядаюць стандартам, бо зроблены яны фанатамі сваёй справы ўручную. Ёсць душавыя, але яны не працуюць, бо Цэнтр мае запазычанасць па аплаце за ацяпленне.

Дарэчы, калі вы чуеце пра гэты Цэнтр упершыню, то паведамляем, што знаходзіцца ён у будынку гарадской лазні. Цэнтр чакае новых наведвальнікаў і багатых спонсараў.

*А.Храпавіцкі, Ю.Калбасіч*
*Фотаздымак аўтараў*



Ідуць заняткі ў атлетычнай зале Цэнтра фізкультурна-аздараўленчых работ

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

### ШУКАЮ ПРАЦУ:

Спецыяліст з вялікім вопытам работы выканае плітачна-аддзелачныя работы па еўрастандарту. Званіць па тэл. у Глыбокім: 22379 з 19.00 да 21.00. Спытаць Сяргея.

### ЗАПРАШАЕМ:

Газета «Вольнае Глыбокае» запрашае на працу рэпарцёра, карэктара. Тэл. у Глыбокім 2-87-54, 3-76-19

### ПРАДАМ:

-- бляху ацынкаваную 0,55 мм -- 2,50 х 1,25;
-- аўтамабіль ГАЗ-53 (фургон);
-- фургон ізатэрмічны да ЗІЛа альбо ГАЗ-53;
-- вагон пад гандаль або дачу;
-- гараж у раёне МКК памерам 5,5. х 10,0; і хлеў
-- сядзібу ў вёсцы пад знос.
Звяртацца ў г. Глыбокім па тэл.; 2-40-17, 2-89-33 альбо 4-20-17, 4-43-25

-- аўтамабіль "Фольксваген-Пасат" (карбюратар) у добрым стане.
-- касетны магнітафон "Маяк"; стэрэаўзмацняльнік і калонкі S-90 "Радыётэхніка"; тэлевізар "Бярозка", танна. Тэл. у Глыбокім: 27458.

Трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў раёне МКК. Тэл. у Глыбокім: 2-48-40

-- Карову шасці цялят чорнай масці. Звяртацца ў вёску Вераб'і Глыбоцкага раёна да Сіманковіч Алены Антонаўны.

Прадам ці абмяняю 2 дамы на адным участку на двухпакаёвую кватэру з выгодамі. Звяртацца: вул. Леніна, 83

-- Імпартныя змяшальнікі на кухню ад 16 да 38 тысяч рублёў; ванну ад 38 да 66 тысяч; гібкую падводку ад 40см. да 3-ох метраў; краны шаравыя на 15,20,25,32 дзюймаў. Продаж адбываецца на калгасным рынку ў Глыбокім па нядзелях каля мяснога павільёна. Тавар сертыфікаваны і мае гарантыю. Тэл у Глыбокім: 21744

### ЗДЫМУ:

-- здыму на працяглы тэрмін аднапакаёвую кватэру з выгодамі для аднаго чалавека. Тэл. 3-86-25, (2-11-73 з 8.00 да 18.00, Лена)

-- сям'я з двух чалавек здыме 1-пакаёвую кватэру. Тэл 2-14-95 да 15

Здыму адна-двухпакаёвую кватэру з выгодамі і тэлефонам у раёне МКК на працяглы тэрмін. Тэл 3-76-19 Яраслаў

### КУПЛЮ:

ВАЗ-2121 «Ніва» ў любым тэхнічным стане: біты, нерастаможаны, не на ходу. Разгледжу любыя варыянты. Тэл. у Навапалацку: 8-245-73042 (раніца, вечар)

## *Кастусь Акула,*

***які жыве ў г. Таронта (Канада), наш зямляк, пісьменнік, актыўны грамадскі дзеяч 16 лістапада адзначае Дзень нараджэння***



*Паважаны Кастусь!*

*Вашы гады -- Ваша і наша багацце. Яны -- скарбніца вопыту і талент, яны -- гонар і сіла беларускай нацыі.*

*Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння. Жадаем Вам мець моцнае здароўе, добры настрой. Няхай кожны новы год прыносіць Вам новыя творчыя здабыткі. Няхай не згасае ў Вашай душы агеньчык аптымізму і не пакідае надзея прыехаць ў вольную і незалежную Беларусь. Жывіце доўга і няхай ласка Божая не пакідае Вас.*

*Супрацоўнікі рэдакцыі «Вольнае Глыбокае»*



**Віншуем**
*Бахіра Аляксандра*
**з днём нараджэння**

Жадаем яму быць здаровым, мець шмат грошы, знайсці сваё каханне, заўсёды заставацца вясёлым, аптымістычным і сучасным.

**Калектыў глыбоцкіх ды-джэяў**

**Грамадская прыёмная Глыбоцкага аддзялення БХК па правах чалавека вядзе прыём грамадзян штодзённа з 16⁰⁰ да 19⁰⁰. Тэлефоны ў Глыбокім: 26938, 28754. Тэлефон Шаркоўшчынскага прадстаўніцтва БХК: 23111.**

## Мітынг забаранілі

Мінгарвыканкам забараніў Партыі камуністаў Беларусі (ПКБ) праводзіць 7 лістапада, у Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі шэсце і мітынг у цэнтры сталіцы.

На конкурс *Я ў ХХІ-ым стагоддзі*

## *Крык душы*

*Дваццаты век, цень верталёта*
*Ляціць над гмахамі дамоў.*
*На ярасна-высокай ноце*
*Трапеча праца гарадоў.*
*Бяжыць над залатым бетонам,*
*Над эстакадамі ў сусвет,*
*Над трызненнем людзей шалёным*
*Трывожнае святло ракет.*
*І горад ад неона сіні,*
*Дзе век престанак свой знайшоў,*
*Трымае ў вуліцах жанчыну*
*З дзіцячай, студжанай душой.*
*У адвечнай прозе чалавека*
*Яе душа, яе рука*
*Шукае месца ў гэтым веку*
*І ўсё не можа адшукаць...*

У. Караткевіч

Услед за радкамі слыннага паэта рука працягвае пісаць:
*Век дваццаць першы... Усё без змены...*
*Душа прытулку не знайшла.*
*Жанчына ўпала на калені.*
*Не у малітве. Ад жыцця.*

Гэта жахліва, калі страчваеш веру ў светлае, веру ў добрае... Гэта жахліва для кожнага. А калі ты яшчэ малады?! Калі толькі пачынаеш жыць?! Спрабуеш увасобіць свае мары і жаданні ў жыццё – а іх пад ногі... Вы скажаце, што трэба быць моцным, трэба больш настойліва ісці да сваёй мэты, не зважаючы на перашкоды. А калі ты слабы?.. Не даў Бог моцнай волі, жалезнага характару, цвёрдасці і рашучасці, а прывёў ХХІ-ае стагоддзе з душой чулай і ранімай, якая ўжо ледзь трывае ад націску жорсткасці і раўнадушша... Сёння паспачуваў чалавеку, а заўтра — сташ абліты гразёй ім жа. Сёння дапамог у бядзе, а заўтра – адзін ужо са сваёю бядою. І так дзень за днём. Мары адна за адной з ружовых ператвараюцца ў шэрыя, ніцеюць, знікаюць, паміраюць без надзеі на ўваскрашэнне. Ад невыноснага болю плача сэрца, плача крывавымі слязьмі: "Я адна... параненая... сярод бруду... Я адна... сярод зла і бесчалавечнасці..." А вочы ўзіраюцца ў скамянелыя твары сустрэчных і моляць, і просяць: "Людзі! Не дайце загінуць душы! Яна ў вашых руках..."

*Алена, в. Азярцы*

**Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку» і ў нашых распаўсюджвальнікаў**

Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула
Набор: Юрый Калбасіч;
Дызайн, вёрстка: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 28754 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50. Адрас для допісаў: вул. Валадарская, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш
Падпісана ў друк 5 лістапада 2001 г. у 9⁰⁰
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Навапалацкай узбуйненай друкарні: г. Навапалацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6835